Адна зямля

Мядзел
Астравец
Смаргонь
Вілейка
Ашмя
Маладзечна
ложын
Мінск

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

20 чэрвеня 2014 года №25 (999)



## НАВІНЫ РЭГІЁНА

### Астравецкая бальніца – лепшая

**АСТРАВЕЦ.** Цэнтральная раённая бальніца па выніках абласнога агляду-конкурсу прызнаная лепшай на Гродзеншчыне. Міхалішкаўская ўчастковая бальніца заняла другое месца, а Гозскі ФАП стаў трэцім у адпаведных намінацыях. Праца дзіцячага доктара-оталарынголага **Іны Юркойць** адзначаная Ганаровай граматай. Падзякі атрымалі старшая медсястра Міхалішкаўскай бальніцы **Людміла Багдановіч** і медсястра цэнтральнай раённай бальніцы **Таццяна Козіч**.

### Юныя віляйчане перамаглі ў Германіі

**ВІЛЕЙКА.** Ад 5 да 10 чэрвеня віляйчане ўдзельнічалі ў футбольным фестывалі ў горадзе Рынтэльн (Германія). Гулялі дзесяць камандаў: восем нямецкіх і дзве беларускія, у тым ліку вілейскія выхаванцы дзіцяча-юнацкай спартыўнай школы прафкама ААТ "Зеніт-БелОМА" 1999-2000 гадоў нараджэння. Віляйчане выйшлі ў фінал, дзе супрацьстаяла адна з нямецкіх камандаў. Асноўны час завяршыўся з лікам 1:1. Па пенальці віляйчане былі мацнейшыя, расказаў іх трэнер **Аляксандр Пачанкоў**. Яны заваявалі кубак і грамату.

### Пракладзіце свой маршрут ля Нарачы

**МЯДЗЕЛ.** Супрацоўнікі Нацыянальнага парку "Нарачанскі" разам з краязнаўцам **Іванам Драўніцкім** распрацавалі маршрут "Дарогамі Міжазер'я" і інтэрактыўную вэб-прыладу да яго. Знайсці вэб-прыладу можна на сайце narochpark.by. Віртуальны даведнік уключае 74 прыродныя і гістарычныя аб'екты. Турыст можа паглядзець фатаграфіі, пазнаёміцца з інфармацыяй па кожным аб'екце і сфарміраваць цікавы яму маршрут.

### Адкрылі выставу пейзажыста

**СМАРГОНЬ.** У выставачнай зале музея працуе выстава работ мастака **Уладзіміра Навіцкага** "Мелодыя роднага краю". Выстава прымеркаваная да 60-годдзя мастака. На палотнах наведнікі ўбачаць жывапісную прыроду Смаргоншчыны. На выставе 43 працы аўтара.

**Алесь ВЫСОЦКІ, Наталля ТУР.**



# Чэмпіён – ён і ў Афрыцы чэмпіён

## 17-гадовы ашмянец Ігар Юзапчук стаў чэмпіёнам свету




Фота Яўгена ЖУКАВА

У вагавай катэгорыі да 66 кілаграмаў выхаванец ашмянскай школы-інтэрната Ігар Юзапчук у суме трохбор'я падняў 507,5 кг, перасягнуўшы свайго саперніка з Расіі на сем з паловай кілаграмаў.

**АШМЯНЫ. Чэмпіянат свету па паўэрліфтынгу праходзіў у паўднёваафрыканскім горадзе Потчэфструм.**

На званым абедзе ў наш гонар да стала падавалі антылопу! – хваліцца Ігар. – Ой, не антылопу, ламу. І страуса.

**– Смачна было?**

– Ну так сабе, дамашняя ежа ўсё ж смачнейшая.

**– Ігар, чым табе яшчэ запомніцца Афрыка?**

– Доўгім пералётам. Мы ляцелі ажно 14 гадзін. А сам горад Потчэфструм вельмі прыгожы. І яшчэ ў іх Нэльсан Мандэла паўсюль: на плакатах, грошах, помніках, – партрэты па ўсім горадзе.

### У спорт пайшоў, каб не ісці ў ПТВ

**– Раскажы пра від спорту, якім ты займаешся?**

– Паўэрліфтынг – гэта сілавое трохбор'е. Задача – падняць як мага большую вагу. Але ў паўэрліфтынгу свой падыход. Я прыйшоў у спорт у 12 гадоў і ўжо дакладна ведаў: калі не займацца спортам, то максімум, што мяне чакае – гэта наша ашмянскае ПТВ. А я хачу дабівацца чагосьці большага. Сёлета я скончыў школу, і цяпер ведаю дакладна, што спорт – гэта маё жыццё.

**– Пра трэнера свайго раскажы?**

– Мяне ўсе пяць гадоў, што я займаюся паўэрліфтынгам, выхоўвае адзін трэнер, **Міхаіл Станкевіч**. Ён для мяне не проста трэнер. Ён мне як бацька. Без яго падтрымкі мне было б цяжка. На трэніроўках ён заўсёды цікавіцца, ці паеў я, як сябе адчуваю. Калі я хварэю, ён заўсёды прыходзіць, хвалюецца за мяне. У інтэрнаце ж, дзе я выхоўваўся, на мяне і мае праблемы было ўсім пляваць.

### Барацьбы лёгкай не бывае

**– Вяртаючыся да чэмпіянату, ці лёгка было перамагаць? Адчуваў, што ты мацнейшы за саперніка?**

– Не, кожная перамога даецца толькі потам. Лёгкай барацьбы не бывае. Бліжэйшымі сапернікамі маімі былі расіяне, але з імі таксама давялося паспаборнічаць.

**– Чым, акрамя медаля, узнагародзяць чэмпіёна?**

– Не ведаю, чым, акрамя "дзякуй", мяне могуць узнагародзіць. Спартсмены ў Беларусі – далёка не мільянеры. Я ж цяпер мару толькі аб тым, каб знайшліся грошы на паездку ў Венгрыю. У жніўні там пройдзе чэмпіянат свету з экіпіроўкай. З экіпіроўкай, гэта значыць у камбінезоне, з наколенніка-мі. У Потчэфструме быў чэмпіянат класічны, без экіпіроўкі.

**– Як ты лічыш, пра паўэрліфтынг у Беларусі наогул ведаюць? Ці гэта незапатрабаваны від спорту?**

– Ён пакуль не алімпійскі. Гэта факт. Але наконт непапулярнага, не ведаю. Я калі першыя разы едзіў на чэмпіянаты ў Літву, Расію, Чэхію, сам дзівіўся: у беларускай дэлегацыі было па 200-300 спартсменаў. Ну, вы ўсё яшчэ думаеце, што пра паўэрліфтынг ведае мала людзей? УАфрыку ад Беларусі мы ездзілі ўпяцёх.

**– Ці шмат часу адбірае спорт? Застаецца яшчэ на іншыя чалавечыя радасці?**

– Трэніроўка доўжыцца каля чатырох-пяці гадзін тры-чатыры разы на тыдзень. Астатні час вольны. Я люблю ў футбол з хлопцамі пагаць, чытаю многа. Цяпер чытаю кніжку "Спартак" Джаваньёлі. Там "Спартак" не проста воін, як яго паказваюць у кіно, а чалавек шчодры, мужны, высакародны. І я яшчэ ў лазню хадзіць люблю, папарыцца, венічкам пахвастацца.

**– Ігар, што вам гаварыць трэнер, перад тым як адпусціць на памост у спаборніцтвах?**

– Ігар, будзь малайцом!

**Наталля ТУР.**

СВЯТЫ

# “Адна зямля” пройдзе 5 ліпеня

**ВАЛОЖЫН. Рэгіянальны фестываль-конкурс маладых выканаўцаў эстраднай песні “Адна зямля”, сузаснавальнікам якога з’яўляецца “Рэгіянальная газета”, сёлета пройдзе ў Валожыне.**




Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Удзельнік фестывалю "Адна зямля" 2012 года Даніла Відміч з Маладзечна.

Ад Маладзечна на фестывалі будзе сем выканаўцаў у чатырох узроставых катэгорыях. Гэта юныя выканаўцы з Палаца культуры, цэнтра дзіцячай творчасці “Расток”, а таксама прадстаўнікі цэнтралізаванай клубнай сістэмы Маладзечанскага раёна: **Ганна Мартынава, Кацярына Бібік, Кацярына Паўловіч, Вераніка Акуліч, Марк Войтка, Аляксандра Шаюк, Наталля Івашанка**, – паведаміла “РГ” галоўны спецыяліст аддзела культуры Маладзечанскага райвыканкама **Тамара Дудзіч.**

Першы фестываль адбыўся ў 1999 годзе на стадыёне пасёлка Чысць. Ад 2000 года ў фестывалі ўдзельнічаюць прадстаўнікі Вілейшчыны і Смаргоншчыны. Ад 2002 года ўдзельнічаюць жыхары Астравеччыны. У 2004 годзе ўдзельнікамі фестывалю становяцца прадстаўнікі Мядзельшчыны.

У розныя гады пераможцамі конкурсу станавіліся **Дар’я Урызчанка** (спявачка Дарыя, 2000 год), саліст аркестра **Міхаіла Фінберга Аляксандр Салаўёў** (2006 год), сёлетні ўладальнік 2-га месца фестывалю “Маладзечна-2014” **Артур Міхайлаў** (2012 год) і многія іншыя.

Фестываль па чарзе праводзіцца ў адным з раёнаў Павілля (Маладзечна, Вілейка, Астравец, Ашмяны, Мядзел, Смаргонь) і на Валожыншчыне.

**Наталля ТУР.**

АДУКАЦЫЯ

## На Вілейшчыне – 13 залатых медалістаў, на Мядзельшчыне – 10

**ВІЛЕЙКА, МЯДЗЕЛ.** Сёлета на Вілейшчыне са школай развіталіся 326 выпускнікоў. Залаты медаль атрымалі 13 з іх.

У Мядзельскім раёне навучанне ў 17 установах адукацыі скончылі 244 выпускнікі. Тут залатых медалістаў дзесяць.

**Аддзел інфармацыі.**

**1000!**

**Юбілейны нумар “РГ” – у наступную пятніцу**

ГІСТОРЫЯ

## Выйшаў гадавік “Вілейскі павет”

**ВІЛЕЙКА. Гісторыка-краязнаўчы гадавік “Вілейскі павет” выйшаў з друку 13 чэрвеня.**

На 182-х старонках зборніка сабраныя матэрыялы з гісторыі Вілейшчыны. Тут зможаце з успамінаў сучасніка даведацца, якой была Вілейка ў канцы XIX стагоддзя, а таксама пра падзеі 1863 года і археалагічныя даследаванні Вілейшчыны, трагічны лёс малодшай сястры Максіма Танка і ваенную гісторыю краю ды многае іншае.

Выданне выйшла ў выдавецтве “Галіяфы” тыражом у 500 экзэмпляраў. Укладальнікамі гадавіка сталі **Сяргей Макарэвіч і Дзяніс Канецкі**. У наступным нумары “Рэгіянальнай газеты” з інтэрв’ю з Сяргеем даведаецеся, дзеля чаго ствараўся гадавік і дзе яго можна набыць.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**




Фота забяспечана Сяргеем МАКАРЭВІЧАМ.

Вокладка гадавіка “Вілейскі павет”.

ПЛЕНЭРЫ

## Юныя мастакі малявалі мясціны Першай сусветнай

**ВІЛЕЙКА. Ад 10 па 14 чэрвеня праходзіў раённы дзіцячы пленэр імя Нікадзіма Сілівановіча. У ім прынялі ўдзел 18 чалавек – вучні вілейскай гімназіі 1 “Логас” і дзеці, якія займаюцца ў студыі выяўленчага мастацтва Эдуарда Мацюшонка.**

Пленэр праходзіў у чацверты раз. Сёлета ён прысвячаўся 100-годдзю пачатку Першай сусветнай вайны. Над гэтай тэмай пераважна і працавалі юныя мастакі.

Першыя дні – у Вілейцы. Малявалі і чыгуначны вакзал, куды ў 1915 годзе на агляд войскаў прыехаў імператар Мікалай II.

Яшчэ дзеці пабывалі на радзіме знакамітага земляка Нікадзіма Сілівановіча ў вёсцы Цынцавічы, на комплексе “Памяці падзей Першай сусветнай вайны” ў Забродздзі, у Рускім Сяле і Смаргоні.

– Паглядзеўшы месцы, дзе адбываліся баявыя дзеянні, юныя мастакі павінны былі перадаць на паперы сваё ўспрыманне, – дзеліцца навуковы супрацоўнік краязнаўчага музея **Надзея Аўдзей**.

Дзеці стварылі больш за сотню работ. Іх можна было пагладзець на ўрачыстым закрыцці пленэру ў зале выстаў імя Сілівановіча. Падчас яго ўсе ўдзельнікі атрымалі дыпломы і падарункі. Фінансавую падтрымку пленэру аказаў райвыканкам і вілейская раённая арганізацыя “Беларускі фонд міру”.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

РЭЛІГІЯ

## У Назарэце асвецяць абраз Маці Божай Будслаўскай

**МЯДЗЕЛ.** Ад 21 чэрвеня пачынаецца агульнабеларуская пілігрымка на Святую Зямлю на асвячэнне абраза Маці Божай Будслаўскай, паведамляе catholic.by.

Абраз, выкананы ў мазаіцы, будзе ўсталяваны на сцяне санктуарыя Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі ў Назарэце.

**Аддзел інфармацыі.**

● **СПАЖЫВЕЦ**

# Купіць тэлевізар – як згуляць у латарэю

**МАЛАДЗЕЧНА. Як купіць тэлевізар і не расчаравацца, а таксама да чаго быць гатовым, набываючы тэхніку?**

У рэдакцыю "РГ" напісаў ліст чытач. Ён падзяліўся сваім досведам, як купіў тэлевізар, і папрасіў адказаць на некаторыя пытанні. Парады дае спецыяліст па рамонце тэлевізараў прадпрымальнік з Маладзечна **Сяргей**.

– Калі вы купляеце тэлевізар, улічвайце, што большасць з іх рана ці позна паломіцца. Ніякі вытворца тэхнікі не зацікаўлены, каб яго прадукцыя працавала доўга.

Адназначна не раю набываць самыя новыя і наварочаныя мадэлі. Часта яны недапрацаваныя. Многімі функцыямі пакупнік наўрад ці будзе карыстацца, а заплаціць за іх добрыя грошы.

Перад тым як набываць тэлевізар, прыкіньце, колькі гатовыя заплаціць. Пачытайце водгукі на паўныя мадэлі ў інтэрнэце ці абмяркуйце са знаёмымі, якія нядаўна куплялі тэлевізар.

Тэхніку якой бы фірмы ні набывалі, большасць дэталяў робяць у Кітаі. Таму купіць тэлевізар – гэта як згуляць у латарэю. Будзьце гатовыя, што тэхніка дасць збой. Добра падумайце, ці варта набываць дарагі прадукт.

Калі набываеце тэлевізар у краме, будзьце пільныя і правярайце ўсё самі. Прасіце, каб падключылі яго да антэны і паказалі, як будзе выглядаць выява ў вас дома. У крамах жа звычайна ўстаўляюць флэшку, на якой запісаны рэкламныя карцінкі вельмі добрай якасці. У вас дома выява будзе рэальнай, і вы расчаруецеся ў пакупцы.

Перад пакупкай падумайце, як будзеце выкарыстоўваць тэлевізар. Ці патрэбны вам інтэрнэт? Гэта асаблівa актуальна для больш сталых людзей, якім лепш выбіраць самы просты тэлевізар. Многім спажыўцам варта запрасіць майстра, каб настроіў каналы.

Многія набываюць тэхніку праз інтэрнэт-краму. З цягам часу тэлевізар давядзецца рамантаваць, таму падумайце, як вы будзеце рамантаваць яго па гарантыі.

Што тычыцца прыставак – так, цяпер у нас састарэлыя стандарты, якія будуць мяняцца, хутка пяройдзем на DVB-T2. Наогул, стандарты мяняюцца часта. Таму, выбіраючы прыстаўку, улічвайце гэта і звяртайце ўвагу на тыя, што падтрымліваюць некалькі стандартаў.

**Падрыхтавала Зоя ХРУЦКАЯ.**


Фота japfakt.com.

**У Японіі часам ладзяць акцыі для зняцця стрэсу. Ахвотныя могуць разбіць, напрыклад, тэлевізар. Каб не ўзнікла жаданне расправіцца са сваёй уласнасцю, практычна выбірайце тэхніку і райцеся са спецыялістамі.**

● **МЕРКАВАННЕ**

## Як я купляў тэлевізар

Купіў вадкакрышталічны тэлевізар і лічбавую прыстаўку для старога тэлевізара. Калі купляў, мне паказвалі якасць з флэшкі, а не ўключылі звычайным чынам. Прыстаўку не праверылі наогул.

Высветлілася, што прыстаўка не падыходзіць. Яна працуе ў стандарце DVB-T, а мой кабельны апаратар перадае сігнал у стандарце DVB-C.

Пасля загрузкі аналагавымі і лічбавымі каналамі тэлевізар пачаў глючыць.

Прыстаўку крама забрала назад амаль адразу, а з тэлевізарам давялося паваждацца больш за два месяцы. Спатрэбілася спісаць шмат паперы і патраціць нервы і здароўе.

### Дзе танней тэлевізар

Я высветліў, што ў Маладзечне купіць тэлевізар з поўнай праверкай можна толькі ў адной краме з не самым вялікім асартыментам.

Пры пакупцы нельга праверыць некалькі паказчыкаў.

- як прымае аналагавы і лічбавы эфір.

- як прымае кабельнае тэлебачанне ў стандартах DVB-T і DVB-C.

- як рэагуе на каманды пульта, калі загрузілі памяць тэлевізара каналамі.

- як рэагуе на падключэнне да камп'ютэра і іншых знешніх крыніц сігнала.

Атрымліваецца, што выгадней набываць праз інтэрнэт-краму. І там, і там тавар няўважартасна не правяраюць. Але ў крамах адчувальна вышэйшая цана.

### Як разабрацца з прыстаўкамі

У Маладзечне кабельныя апаратары перадаюць дадаткова сігналы DVB-T і DVB-C. Але ў Беларусі збіраюцца ўвесці стандарт DVB-T2. Амаль усе прыстаўкі і многія тэлевізары ў Маладзечне не змогуць прымаць сігнал пасля змены. Давядзецца набываць дадатковыя прыстаўкі ці новы тэлевізар.

**Э. А. ХАРХАЛЁЎ, Маладзечна.**

● **ПЫТАЙЦЕСЯ - АДКАЗВАЕМ**

## У Маладзечне знікаюць газетныя кіёскі?



**МАЛАДЗЕЧНА. У рэдакцыю звярнуўся чытач, які расказаў пра тое, што ля яго дома па Вялікім Гасцінцы, непадалёк ад гарадской стаматалогіі, знік газетны кіёск.**

– Я пайшоў да кіёска набыць газету, гляджу, а кіёска няма. Калі яго прыбралі і, галоўнае, навошта? Было зручна, блізка ад дому.

Кіёск ля стаматалагічнай паліклінікі не адзіны, які ў апошні час прыбралі з вуліц горада.

**– Чаму прыбралі кіёскі?** – з такім пытаннем "РГ" звярнулася да начальніцы маладзечанскага аддзялення "Мінаблсаюздруку" **Ядвігі Чаеўскай**:

– Тое, што мы прыбралі кіёск ля стаматалогіі – гэта нармальна. Мяркуйце самі. Не так далёка ёсць кіёск на прыпынку ля гандлёвага цэнтра "Тройка", калі ісці ў другі бок – ёсць кіёск ля гандлёвага цэнтра "Космас".

Каб кіёск быў прыбытковым, тавараазварот у месяц павінны быць не меней за 100 мільёнаў рублёў. У гэтым жа кіёску ледзьве набіралася 44 мільёны. А заробак прадаўца складае 6% ад гэтай сумы. Атрымоўваецца, што ў нас людзі зарабляюць па два і два з паловай мільёны. Хто ж захоча працаваць за такія грошы?

Мы ж гандлюем "гарачымі піражкамі". Калі сёння газету не купілі, заўтра ўжо народу трэба свяжэйшая прэса. Таму і тавараазварот адсутнічае.

А кіёск ля "Белтэлекама" быў побач з поштай. Нягледзячы на тое, што мы прадаём шмат суправаджальнага тавару, усё ж гараджане ў кіёск найперш прыходзяць, каб набыць свежую прэсу.

**– Ці знікнуць яшчэ кіёскі?**

– Не, не і не. Ніякіх радыкальных мер мы прадпрымаць не будзем. Гэтыя два кіёскі не зніклі, мы іх перанеслі. Адзін да чыгуначнага вакзала, другі – да дзіцячай паліклінікі. У Маладзечне як працавалі, так і будуць працаваць 18 кіёскаў "Мінаблсаюздруку".

**Наталля ТУР.**

| Курсы валют НБ РБ | 12.05 | 19.06 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 10 140,00 | 10 170,00 |
| Еўра | 13 730,00 | 13 780,00 |
| Злоты | 3 332,24 | 3 325,16 |
| Літ | 3 972,34 | 3 991,13 |
| Расійскі рубель | 295,50 | 292,00 |
| Грыўня | 871,88 | 851,22 |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| Еўра | 13710/13800 | 13770/13860 |
| Долар ЗША | 10110/10155 | 10160/10210 |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 11.06 | 18.06 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| **Кілбаса с/вэндж.**, 1 кг | 118900 | 125900 |
| **Сасіскі**, 1 кг | 63600 | 63600 |
| **Кураня-бройлер**, 1 кг | 31900 | 28800 |
| **Ялавічына**, (выразка), 1 кг | 100000 | 100000 |
| **Мінтай свежамарожаны**, 1 кг | 28900 | 28900 |
| **Селядзец**, 1 кг | 32500 | 32500 |
| **Скумбрыя х/в**, 1 кг | 87000 | 95000 |
| **Рыс**, 0,9 кг | 10000 | 14000 |
| **Грэчка**, 0,9 кг | 8300 | 8500 |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 10000 | 10000 |
| **Алей "Масловія"** | 13000 | 13000 |
| **Маянэз**, 200 г | 5300 | 5500 |
| **Соус "Мінскі"**, 0,5 л | 8000 | 6700 |
| **Кава "Nescafe"**, 100 г | 28000 | 28000 |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 9000 | 9000 |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 10000 | 9000 |
| **Капуста**, 1 кг | 9000 | 7000 |
| **Морква**, 1 кг | 9500 | 9500 |
| **Буракі**, 1 кг | 15000 | 14000 |
| **Лімоны**, 1 кг | 28500 | 27500 |
| **Апельсіны**, 1 кг | 14500 | 15500 |
| **Мандарыны**, 1 кг | 22500 | 21500 |
| **Памідоры**, 1 кг | 17900 | 19500 |
| **Агуркі**, 1 кг | 12000 | 4900 |
| **Перац**, 1 кг | 37900 | 28000 |
| **Вінаград**, 1 кг | 22500 | 22500 |
| **Бананы**, 1 кг | 15500 | 12900 |
| **Яблыкі**, 1 кг | 10900 | 9500 |
| **Грушы**, 1 кг (Дюшэс) | 23900 | 23500 |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако**, 1,5 л | 15000 | 15000 |
| **Масла**, 1 кг | 80000 | 80000 |
| **Тварог**, 1 кг | 50000 | 50000 |
| **Бульба**, маладая 1 кг | 17000 | 13000 |
| **Сала**, 1 кг | 85000 | 100000 |
| **Мёд**, 0,5 л | 50000 | 50000 |

● ПРАКУРАТУРА, СУД

# Зламаныя арэлі могуць пакалечыць

**ВІЛЕЙКА. Пракуратура Вілейскага раёна правяла маніторынг дзіцячых дваровых пляцовак у горадзе.**

Па выніках праверкі, Вілейская ЖКГ не стварыла належным чынам бяспечныя ўмовы для жыцця і здароўя непаўналетніх на пляцоўках.

**Гаспадар тэрыторыі, якая прылягае да будынка, мусіць падтрымліваць у тэхнічна спраўным стане гульнявыя і малыя архітэктурныя формы на ёй: рамантаваць, фарбаваць іх. Патрабаванне паводле Тэхнічнага кодэкса "Тэхнічная эксплуатацыя жылых і грамадскіх пабудоў. Парадак правядзення".**



Фота заблісткова Таццяны БАБАРЫКАЙ

**На арэлях-маятніках у двары дома №45 па вуліцы 1 Мая няма сядзенняў.**

На арэлях-маятніках у двары дома №45 па вуліцы 1 Мая няма сядзенняў. Паламаныя арэлі ў двары дома №9 па вуліцы Гагарына. Металічная горка ў двары дома №72 па вуліцы Чапаева заржавела, з дзюркамі. У двары дома №72 па вуліцы Валынца зламаныя сядзенні арэляў-маятнікаў, паламаныя іншыя арэлі. Горка ў гэтым двары мае прагіб з завостранымі канцамі. Усе гэтыя пляцоўкі не пафарбаваныя.

Такі стан малых архітэктурных формаў на гульнявых пляцоўках не дазваляе іх выкарыстоўваць – можна нашкодзіць здароўю дзяцей і траўмаваць непаўналетніх.

**Паводле Закона "Аб правах дзіцяці", кожнае дзіця мае неад'емнае права на ахову і ўмацаванне здароўя.**

Вілейская ЖКГ не прыняла ўсе меры па абароне правоў непаўналетніх. Названыя парушэнні могуць істотна нашкодзіць. У ЖКГ унеслі прадпісанне: выправіць парушэнні, адрамантаваўшы гульнявыя пабудовы.

Такія ж парушэнні заканадаўства і нядбайнасць службовых асоб прывялі да няшчасця ў Маладзечанскім раёне ў 2009 годзе. Дзяўчынка, вучаніца школы, спускалася з металічнай горкі і атрымала пашкоджанні – ампутацыя фалангі пальца.

Пракуратура Вілейскага раёна сочыць, ці выконваюць адказныя службовыя асобы заканадаўства па прафілактыцы траўматызму і гібелі дзяцей.

**Таццяна БАБАРЫКА,**
**старшы памочнік пракурора Вілейскага раёна, юрыст 1 класа.**

● ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Праверацць кіроўцаў ровараў і матацыклаў

**МІНШЧЫНА.** Адпаведную акцыю ладзіць Дзяржаўтаінспекцыя Мінскай вобласці да 22 чэрвеня.

Акцыю "Колаў менш – небяспекі больш!" праводзяць для прафілактыкі ДТЗ з удзелам двухколавага транспарту. Міліцыянеры праверацць,, наколькі дакладна выконваюць правілы дарожнага руху кіроўцы ровараў, мапедаў і матацыклаў.

### Прымуць экзамены ў будучых матацыклістаў

У чацвер, 26 чэрвеня, будуць прымаць экзамены па Правілах дарожнага руху і практычным кіраванні матацыклам. Пачатак экзаменаў а 8 гадзіне.

Ахвотныя змогуць зарэгістравацца ў Мала дзечанскай арганізацыі Добраахвотнага таварыства садзейнічання авіяцыі, арміі і флоту па адрасе: Маладзечна, вуліца Віленская, 64. Тэлефоны: **(80176) 73-48-00, 73-56-03**.

**Сяргей БАРТОШ,**
**дзяржаўтаінспектар Маладзечанскага райаддзела міліцыі.**

● МІЛІЦЫЯ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Шукаюць машыну УРАЛ

**МАЛАДЗЕЧНА.** Маладзечанскі райаддзел міліцыі шукае машыну. Па факце яе крадзяжу заведзеная крымінальная справа па артыкуле "Крадзеж у асабліва буйным памеры".

УРАЛ 5757-0000010-01, дзяржнумар В603ВА199, належыць маскоўскай арганізацыі "Мантажбудлізінг".

Яго ўкралі 29 мая ў перыяд ад 20 гадзін 28 мая да сямі раніцы. Стаяў на ўчастку каля пуцеправода дарогі Р106 Маладзечна-Мінск.

Паміж кабінай і кузавам усталяваны гідраманіпулятар, кузаў закрытага тыпу "кунг" з металу, пафарбаванага ў шэры колер.

У кузаве было спецабсталяванне: гідрапомпа "Dich Wich", бензагенератар, прылада для свідравання трубаў, каля 50 металічных штангаў па 120 см, прыбор трасашукальнік. У баку было каля 60 літраў паліва.

Калі вы ведаеце, дзе можа быць гэта машына, калі ласка, паведаміце па нумарах: **(8029) 554-74-26, (80176) 50-08-54, 77-16-56** ці **102.**

**Паводле паведамлення Маладзечанскага райаддзела міліцыі.**



● ЗДАРЭННІ

## Кінуў слоікам з лісічкамі ў машыну

**МЯДЗЕЛ.** Днём 15 чэрвеня ў міліцыю паступіла паведамленне, што невядомы мужчына пашкодзіў аўтамашыну "Рэно". Адбылося гэта на абочыне аўтадарогі Мінск-Калачы-Мядзел ля вёскі Шкленікова.

Мужчына ішоў па абочыне. Падышоў да людзей, якія гандлявалі дарамі лесу. Узяў паўлітровы слоік з лісічкамі і без прычыны кінуў яго ў машыну.

На месца выехала следча-аператыўная група. Праваахоўнікі ўстанавілі, што з хуліганскіх намераў пашкодзіў слоікам аўтамабіль 36-гадовы грамадзянін Расіі, які часова жыве на Мядзельшчыне.

Гаспадару аўтамабіля прычыненыя страты не менш чым на мільён рублёў, паведаміў намеснік начальніка Мядзельскага раённага аддзела Следчага камітэта **Аляксандр Штура.**

Мужчыну затрымалі, узбудзілі крымінальную справу за хуліганства.

## У Навасадах гарэў дом – не выключаюць падпал

**ВІЛЕЙКА.** Пасля шасці гадзін вечара 12 чэрвеня выратавальнікам паведамілі пра тое, што гарыць нежылы дом у вёсцы Навасады. Паведамленне паступіла ад жанчыны, якая прыехала адпачываць на возера.

Калі прыбылі выратавальнікі, драўляны дом гарэў адкрытым полымем.

У выніку пажару згарэлі прыбудаваныя да дома два хлявы, выгараў дах дома, звонку пашкоджаныя сцены, паведаміў інспектар інспекцыі нагляду і прафілактыкі райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Аляксандр Казакевіч**.

Дакладная прычына пажару ўстанаўліваецца. Магчыма, гэта быў падпал або загаранне ўзнікла ў выніку неасцярожнага абыходжання з агнём. Дом закінуты, і каля яго раз-пораз бачылі невядомых людзей.

Падобныя версіі праводзяць і па пажары ў Даўгінаве. Здарыўся ён 11 чэрвеня каля гадзіны ночы. Але там наступствы былі не такія сур'ёзныя, бо ў самой вёсцы знаходзіцца пост выратавальнай службы. У нежылым доме выгаралі два памяшканні, суседнія пабудовы ўдалося адстаяць.

**Аддзел інфармацыі.**

● АХОВА ПРЫРОДЫ

## Сом – пад асаблівай аховай

**МАЛАДЗЕЧНА. Ад 31 мая па 1 ліпеня ўведзеная забарона на лоўлю сома звычайнага.**

Памер прычыненай шкоды ў выпадку назаконнай здабычы сома ў перыяд забароны ад 26 чэрвеня (у сілу ўступае новая рэдакцыя Правілаў вядзення рыбалоўнай гаспадаркі) складзе да 12 базавых велічынь.

Згодна з новымі правіламі, перыяд забароны на лоўлю сома звычайнага будзе павялічаны і падзелены па раёнах. Забарона ўводзіцца двойчы – ад 31 мая па 1 ліпеня і ад 1 лістапада па 31 сакавіка.

Увядзенне яшчэ аднаго дадатковай забароны звязанае з тым, што ў апошні час павялічылася колькасць масавага браканьерства ў перыяд, калі сом залягае ў зімавальныя ямы і становіцца лёгкай здабычай браканьераў, якія выкарыстоўваюць для здабычы забароненыя колючыя прылады лоўлі.

**Маладзечанская міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і раслліннага свету.**

● ПАРАДЫ ПСІХОЛАГА

# Для чаго патрэбны бацька

**МАЛАДЗЕЧНА. У многіх краінах у трэцюю нядзелю чэрвеня святкуюць Дзень бацькі. Сёлета гэтая дата прыпадае на 21 чэрвеня.**

Традыцыя гэтага свята пайшла з ЗША. Ідэя зладзіць свята для татаў нарадзілася ў міс Дод з Вашынгтона. Яна хацела так аддзячыць свайму бацьку за выхаванне. Яго жонка памерла пры родах, але мужчына змог выхаваць немаўля і яшчэ пяцярых старэйшых дзяцей.

Упершыню Дзень бацькоў адсвяткавалі ў 1910 годзе ў Вашынгтоне. Пазней гэтае свята пачалі святкаваць і іншыя краіны. Грамадскае аб'яднанне "Абарона правоў бацькоў і дзяцей" мае ідэю заснаваць гэтае свята і ў Беларусі.

Толькі ў Маладзечанскім раёне жыве 37 сямей, дзе бацька адначасова і тата, і мама.

### Што такое бацька

Ёсць мужчыны, якія лічаць догляд за дзецьмі не мужчынскай працай. Але гэта не так. Дзіцяці трэба асэнсаваць, што два светы, мужчынскі і жаночы, існуюць разам і залежаць адзін ад аднаго. Без гэтага разумення складана будаваць адносіны.

Сяброўства з бацькам фарміруе добразычлівы і адкрыты характар. Калі ў першыя два гады жыцця тата перакладае клопат аб дзецях на жонку, яна так і застанецца галоўнай ва ўсіх дзіцячых пытаннях. Таму сяброўства пачынаецца з самых першых дзён жыцця сына ці дачкі.

Ці можа бацька канкураваць з маці? У іх крыху розныя ролі. У многіх сем'ях мама – гэта найперш "дзелавы" кантакт. Яна больш клапоціцца пра фізіялагічны бок: здароўе, харчаванне, адзенне. Калі бацька часта бавіць час з дзіцем, то паміж імі больш эмацыйная сувязь. Тады бацьку можна даверыць пра страхі і няўдачы, а таксама хочацца пахваліцца перамогамі. Мама заўсёды супакоіць, а бацька дасць параду, што рабіць далей.

У той жа час паміж бацькам і дзіцем ёсць дыстанцыя, і менавіта яна дапамога ў свой час стаць самастойным дарослым чалавекам. У ідэале бацькі – гэта пара. Мама ўвасабляе дзяцінства, утульны цёплы свет, у якім спраўджваюцца ўсе жаданні. А тата адкрывае свет, дзе ёсць невядомае, рызыка і поспех, дзе кожны адказвае за сябе, дзе ёсць любоў і каханне.

### Роля бацькі для сына

Бацька – заўсёды прыклад для сына. Гэта ўзор мужчынскага характару і паводзінаў. Дзіця вучыцца ад таты, як павінны паводзіць сябе мужчына.

Ужо з 3-5 год хлопчык паводзіць сябе так, які бачыць прыклад ад таты. Ён параўноўвае сябе з бацькам, пераймае яго. Вядома, ён паўтарае паводзіны і сяброў-хлопчыкаў, але асноўны прыклад – бацька. Хлопчыкі, што выраслі без бацькі, часта губляюцца і не ведаюць, як павінен зрабіць мужчына.

Назіраючы за адносінамі таты і мамы, хлопчык даведваецца пра культуру адносінаў паміж мужчынам і жанчынай. Так у яго фарміруецца мадэль будучых адносінаў з дзяўчатамі і жанчынамі. У сваёй будучай сям'і найхутчэй хлопчык будзе паводзіць сябе так, як яго бацька.

Яшчэ адна роля бацькі – клопат пра фізічную форму сына, развіццё вынослівасці, хуткасці. Развіваючы гэтыя якасці, тата прывучае да акуратнасці, дысцыплінаванасці і арганізаванасці.

Але не менш важна праяўляць да сына пяшчоту і клопат. Для хлопчыка гэта не менш важна, чым для дзяўчынкі! Паводле даследаванняў, найбольш мужныя вырастаюць з тых дзяцей, якія зведалі бацькоўскую пяшчоту.


Фота losandes.com.ar

Роля бацькі незаменная для развіцця і сына, і дачкі. А колькі задавальнення і чыстай любові можа атрымаць клапатлівы тата ў адказ!

### Роля бацькі для дзяўчынкі

Для дзяўчынкі тата – гэта першы досвед, як будаваць адносіны з мужчынам.

Інтуітыўна жанчыны выбіраюць мужа, які нечым нагадвае бацьку. Падсвядома яна будзе шукаць зносіны, якія паўтараюць зносіны таты і мамы. Дзяўчынкі, што раслі без бацькі, будуць патрабаваць ад абраннікаў асаблівых патрабаванняў, не размяжоўваюць сямейныя ролі і інакш ацэньваюць, што такое каханне.

Небяспечна і празмерна песціць дачку, пастаянна даючы падарункі і салодкае. У такім выпадку дзяўчынка можа пачаць успрымаць тату як свайго мужчыну і агрэсіўна настроіцца на маму. Лепш наладзіць мякка-настойлівыя паводзіны, з умеранай строгасцю. А "рамантычную" мадэль паводзінаў лепш перанесці на яе маму.

Вельмі важна, каб бацька выхоўваў у дачкі цікаўнасць. Менавіта бацька знаёміць дзяўчынку з тым, што яшчэ невядома. Разам чытаць казкі, маляваць, слухаць музыку, гуляць, хадзіць на экскурсіі – самыя разнастайныя заняткі садзейнічаюць таму, каб бацька распавядаў пра штосьці новае.

Чым больш дарослае дзіця, тым больш важная роля бацькі. Для добрых адносінаў з сынам ці дачкой важныя шчырая зацікаўленасць усім, што робіць дзіця, адкрытасць, актыўны ўдзел у яго жыцці. Гэта зробіць вас сябрамі. Нашмат важней не дарагія падарункі ці паездкі, а штодзённыя праявы асобы бацькі.

Клапатлівыя тата і мама, якія моцна любяць сваё дзіця, – аснова для развіцця гарманічнай асобы.

Са святам, дарагія таты!

**Алена КАМІСАРУК,**
**псіхолаг Маладзечанскага раённага тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва.**

МУЗЕІ

# Як дом ксяндза стаў плябанскім музеем

**МАЛАДЗЕЧНА. Музей традыцыйнай культуры і побыту ў Плябані стане адкрыццём для тых, хто хоча даведацца больш пра набыткі гэтай мясцовасці на Маладзечаншчыне.**

Да кожнага традыцыйнага беларускага свята музей рыхтуе адмысловую праграму. Асаблівае захапленне выклікаюць гэтыя святы ў гарадскіх дзяцей. Ахвотнікі могуць паўдзельнічаць у фальклорнай вандроўцы па беларускіх святах і абрадах.

Работнікі музея плануюць адкрыць новую залу традыцыйнага беларускага побыту.

– Будзем рады, калі хтосьці з чытачоў далучыцца да нашай справы і перадасць музею штосьці са старадаўніх рэчаў, – папрасіла мастацкі кіраўнік музея **Любоў Шчэрбач**.

У пакоях музея размешчана шмат карцін мастакоў менавіта з Маладзечаншчыны: **Кастуся Харашэвіча**, **Сяргея Крука**, **Рыгора Мяжуева**, **Васіля Козака**, **Яўгена Рагуновіча**, **Аляксандра Пашкевіча**, **Вольгі Сарокі**, **Уладзіміра Тамашэвіча**, **Васіля Таркана**, **Розы Панфілавай**. Усе работы вельмі розныя, але кожная – нібы адкрыццё, як можна ўбачыць навакольнае па-мастакоўску.

У адным з пакояў месцяцца разнастайныя вырабы мясцовых майстроў і мастакоў: кубкі, гаршкі, лялькі, кошычкі, упрыгожванні, вырабы з бісеру.

– Будынак вельмі старажытны, – распавядае Любоў Шчэрбач. – Да вайны гэта быў дом ксяндза, які служыў пры касцёле. Дарэчы, будынак касцёла стаіць і цяпер праз дарогу ад музея, але ён ужо ператорваны ў царкву. Падчас Вялікай Айчыннай вайны ў доме ксяндза быў шпіталь. Пасля размясцілі школу, якая працавала да 1995 года. Потым – мастацкую галерэю, а сёлета мы набылі статус Музея традыцыйнай культуры і побыту.



Фота з аблакачання Алена ЯКІМОВІЧ.

У плябанскім музеі заўсёды рады бачыць тых, хто цікавіцца гісторыяй мястэчка.

### Мясцовы паўстанец 1863 года

Асобная экспазіцыя прысвечаная паўстанцу **Юльяну Бакшанскаму**, кіраўніку атрада паўстання Кастуся Каліноўскага. Ён верыў у дэмакратычную рэспубліку і самавызначэнне народаў былой Рэчы Паспалітай, хацеў, каб зямлю перадалі сялянам.

Яго атрад дзейнічаў на тэрыторыі цяперашняга Маладзечанскага і Вілейскага раёнаў.

4 мая 1863 года яго атрад трапіў у засаду да рускіх, якіх было нашмат больш. У бітве каля вёсак Плябань і Свечкі загінулі амаль усе, у тым ліку і Бакшанскі. На месцы іх гераічнай гібелі паставілі крыж і помнік.

**Кацярына КАСЦЕВІЧ, школа журналістыкі пры рэдакцыі "РГ".**

## Чаму Плябань назвалі Плябанню?

У шматлікіх крыніцах узгадваецца шляхцюк, што заблукаў у лесе, дзе на яго напала зграя ваўкоў. І калі шляхцюк выбраўся з лесу на роўную пустку каля ракі Уша – выратаваўшы пабудаваць царкву ў гонар свайго цудадзейнага выратавання.

Пазней на месцы былога драўлянага храма пачалі будаваць касцёл. Каля яго ўзвялі дом ксяндза, плябанію – двор пробашча ці, па-іншаму, плябану. Адсюль вынікае і назва – Плябань.

Калі вам пашчасціць трапіць у Плябань, не абмініце сваёй увагай могілкі. Гістарычная значнасць гэтых могілкаў падкрэсліваецца асобамі тых, хто быў тут пахаваны. А гэта паўстанцы 1863 года – **Юльян Бакшанскі**, **Рафал Малішэўскі**, **Леапольд Банькоўскі**, **Людвіка Ямантa**, а таксама 15-гадовы **Ігнацы Сулістроўскі**. Яны загінулі падчас раптоўнага бою з царскімі карнікамі 23 сакавіка 1863 года. На магіле паўстанцаў у 1921 годзе быў пастаўлены помнік.

Як узгадвае **Вадзім Урублеўскі**, галоўны архівіст аддзела публікацый дакументаў Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі, з правага боку ад могілак знаходзіцца старадаўняе культавае месца – узгорак Святая гара, што з глыбінь вякоў ушаноўваўся мясцовым людам. Цяпер у агромністым катлаване з безліччу густых і крывых сцежак можна ўбачыць вялікую колькасць камянёў, што ляжаць тут з даўніх часоў. **Генадзь Каханоўскі**, калі пісаў пра Святую гару, узгадваў аб тым, што на ёй знаходзіўся ідал нейкага паганскага бога, які з часам некуды знік.

Вясной 2001 года каля будынка музея падчас працы над кветнікам з зямлі быў выкапаны ідал з расплюшчанымі шырокімі вачыма і пукатым жыватом. Але ў выніку безгаспадарлівасці, што панавала тады, ён хутка недзе згубіўся.

Хто ведае, якія яшчэ таямніцы хавае плябанская зямля?

## Самую прыгожую вышыванку падарыла доктарцы

**МАЛАДЗЕЧНА. Выстава народнай майстрыхі Ганны Самаль цяпер працуе ў плябанскім музеі.**

Тут пад выставу Ганны Уладзіміраўны адвялі цэлую залу. Столькі работ у майстрыхі! І абрусы, і сурвэткі, і ручнікі. Кожны ўзор на вырабе непаўторны, адметны.

**– За які час вы вышылі столькі ручнікоў і абрусаў?** – пытаюся ў Ганны Самаль.

– Як на пенсію пайшла, часу вольнага стала шмат, вось і пачала вышываць. Гадоў 20 ужо вышываю. Цяпер мне 77 год ідзе. Ды ў музеі толькі невялічкая частка маіх работ. Колькі я падарыла! Колькі ручнікоў на вяселлі рабіла.

**– Дзе вы берацe сюжэты для сваіх работ?**

– Ну, цяпер гэта не праблема. Столькі кніжак прадаецца. Вышывай – не хачу. Шмат у маіх работах традыцыйнай, беларускай вышыванкі. Але многія ўзоры я выдумваю сама. Я ж мастак у душы.

**– Ці ёсць сярод вашых работ самая любімая?**

– Быў адзін абрус з вышытымі васількамі. Вельмі ўдала атрымалася, кветкі па краях бы цам жывыя, такі колер насычаны. Я гэты абрус падарыла нашай доктарцы. А цяпер нават і не ведаю, усе любімыя, ва ўсе душу ўкладаеш.

**– Вы самі праводзіце экскурсіі па сваёй выставе?**

– Такая прапанова ад супрацоўнікаў музея была, толькі мне пакуль няма часу. Але я абавязкова і з задавальненнем раскажу дзеткам, што будуць наведваць музей, і пра вышыўку, і пра ўзоры.

Плябанскі музей чакае сваіх наведнікаў з серады па нядзелю з 10:00 да 18:30.

**Наталля ТУР.**

ЮБІЛЕІ

## Мая мама – двойчы выдатніца

**МАЛАДЗЕЧНА. Педагог музкаледжа імя Агінскага мая мама Тамара Абрамовіч святкуе 55 год, яна поўная актыўнасці і любові да мастацтва.**



Фота Юліі АБРАМОВІЧ.

Тамара Абрамовіч – педагог і актыўная жанчына. 23 чэрвеня яна сустракае 55 год.

У маёй матулі набліжаецца юбілей. "Двойчы выдатніца", – жартуе яна пра свой узрост. Хаця актыўнасці ў яе, здаецца, толькі большае з кожным годам. Яе выхаванцы сёлета перамаглі ў конкурсе дзіцячай творчасці "Капітошка", вучаніца **Лера Лук'яновіч** стала лаўрэатам конкурсу "Мінута славы". Мама танцуе, спявае ў хоры, друкуе артыкулы ў "РГ". А ў вольны час плавае ў басейне, піша вершы, складае песні.

Яе творчая дзейнасць пачалася ў Шаркаўшчызне, дзе працавала па размеркаванні пасля маладзечанскага музвучылішча. За два гады арганізавала канцэртную групу, з якой давалі канцэрты па ўсім раёне.

Кіравала хорам прадпрыемства, потым трыа, у якім сама спявала. Гэтыя калектывы былі лаўрэатамі і пераможцамі абласнога песеннага фестывалю ў Віцебску.

Пазней яна пачала працаваць у Маладзечне. Прыйшла ў народны ансамбль "Спадчына", у якім удзельнічала больш за 10 год. Цяпер яна таксама танцуе, але ў ансамблі "Адпачынак".

У музычным каледжы яна адпрацавала 38 год. Заўсёды ўдзельнічала ў шматлікіх конкурсах і амаль заўсёды перамагала. Не стамлялася ўдзельнічаць у падрыхтоўцы канцэртаў, якія пасля праходзілі ў поўнай зале.

Юбілярка блізка да сэрца прымае перажыванні дзяцей, якіх выхоўваюць у маладзечанскім прытулку. Летась яна арганізавала фестываль сярод дзяцей-сірот і дзяцей са шматдзетных сямей "Падзяліся ўсмешкаю сваёй".

Такая яна, мая мама. Я ёй ганаруся і мару быць падобнай на яе.

**Юлія АБРАМОВІЧ, школа журналістыкі пры "РГ".**

СВЯТЫ

## На фестывалі заклалі сквер "Сяброўства"

**ГРОДНА. Дзясяты рэспубліканскі фестываль нацыянальных культур адбыўся ў Гродне 6-8 чэрвеня.**

З Маладзечна на фестывалі прадстаўлялі свае культуры ўдзельнікі аб'яднанняў грэкаў "Пелапанес", украінцаў "Краяны" і "Саюза палякаў Беларусі".

Усяго на фестывалі працавалі 22 падвор'і, якія знаёмілі з культурай 37 нацыянальнасцяў.

У дні фестывалю ўдзельнікі заклалі сквер "Сяробоўства", які застанецца гараджанам, як напамін пра свята.

Фестываль нацыянальных культур упершыню адбыўся ў 1996 годзе. Яго эмблемай стала кветачка-сямікветачка.

**Юлія АБРАМОВІЧ, школа журналістыкі пры "РГ".**



Фота Вольгі ЖАРСКАЙ.

Прадстаўнікі аб'яднання ўкраінцаў "Краяны" Леанід Лысакабылка, Ала Жэка і Марыя Рудык.

**Жыхары Мінскай вобласці, Астраўца і Астравецкага раёна** могуць размясціць аб'яву ў "Рэгіянальнай газеце", не выходзячы з дому, набраўшы нумар са стацыянарнага тэлефона. Паслуга платная.




**Размясці сваю аб'яву не менш за тры разы, і яе прачытаюць у Інтэрнэце на сайце** Rh.by

**Тэлефонныя коды** гарадоў рэгіёну:

| | |
|---|---|
| Астравец | - 01591, |
| Ашмяны | - 01593, |
| Валожын | - 01772, |
| Вілейка | - 01771, |
| Маладзечна | - 0176, |
| Мядзел | - 01797, |
| Смаргонь | - 01592. |

**Рэгіянальная газета.** Rh.by **ТРАНСПАРТ** Тэлетыдзень

Вашы аб'явы аб продажы транспарту прачытаюць і ў газеце "Вечерний Бобруйск". Адна цана – дзве газеты!

Вечерний Бобруйск

**Регистрация анкет на визы:**

**польские национальные** (по приглашению, карте поляка) и **шенген** (покупки, деловая, служебная, водители).

**Т. МТС (8-029) 254-25-42, МТС (8-029) 585-16-86, МТС (8-029) 277-01-60.**

**reganketki.com**

ООО «ЧудоСлавия» УНП 591009814

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• А/м 31029, 1993 г.в., у выдатным стане. Т. (8-029) 9139773.

• Аўдзі А-4, 1998 г.в., 1,8 Б, серабрысты металік, выдатны стан. Т. (8-029) 5523831.

• Аўдзі А-6 С-4, 1995 г.в., 2,5 ТДІ. Т. (8-029) 3127179.

• Аўдзі-100, 1985 г.в., бензін-карбюратар-газ, 1800 у.а., Маладзечна. Т. (8-029) 5615614.*

• Аўдзі-80 Б-3, 1990 г.в., 1,8 бензін, чырвоны, добры стан, 3000 у.а., торг. Т. (8-029) 7040099.

• Аўдзі-80 В-4, 1994 г.в., 2,0 і, газ-бензін, газавы балон ляжыць на месцы запаскі, сіні металік, стан блізкі да ідэальнага. Т. МТС (8-033) 6048324.

• Аўдзі-А4, 1994 г.в., цёмна-сіні металік, 7500 у.а., разумны торг. Т. (8-029) 8771973.

• ВАЗ-2107, 1999 г.в., 85000 км прабегу. Т. (8-029) 6427813.

• ГАЗ-24, 1984 г.в., бензін, без укладанняў, магчымы абмен на "Газэль", бартавы. Т. МТС (8-029) 5722940, Вэлком (8-029) 6466652.

• Kia RIO, 2001 г.в., 1500 куб.см, эл/пакет, кандыцыянер, у выдатным стане. Т. МТС (8-029) 7733702.*

• Мерседэс-310 Д, пасажырскі 12+1, 1994 г.в., добры стан, 7000 у.а., торг. Т. МТС (8-029) 5546404.*

• Ніва Шэўрале ВАЗ-2123, 2005 г.в., 1,6 Б, добры стан, поўны прывод, прабег 109000 км, ц/з, 5000 у.а. Т. (8-029) 9109228, 745710.

• Опель Астра, 1992 г.в., 1,7 дызель, хэтчбэк, 2200 у.а., торг. Т. (8-029) 5744493.

• Опель Вектра В, 1999 г.в., 2,0 ТДІ, чорны універсал, літыя дыскі, клімат кантроль, шклопад'ёмнікі, абагрэў люстэрак. А/м у добрым стане. Т. (8-029) 5762438.

• Опель Вектра, 1993 г.в., 1,8 бензін, чорны, люк, эл/шкло, эл/люстэрка, у добрым стане, Маладзечна. Т. МТС (8-029) 5557781.*

• Опель Кадэт Седан, 1000 у.а., Маладзечна. Т. (8-029) 5615614.*

• Опель Кадэт, 1985 г.в., 1,3 бензін, універсал, 350 у.а. Т. МТС (8-029) 2516310.*

• Опель Корса, 1996 г.в., 1,2 Б, 2000 у.а. Т. (8-029) 6474427.

• Пежо-107, 2009 г.в., 1,0 і, чырвоны, 5-дзвярэй, толькі прыгнаны з Францыі – 2 чэрвеня, 7500 у.а., торг. Т. (8-029) 6631595.*

• Пежо-306, 2001 г.в., 1,9 дызель, чорны, універсал, без праблем, 5700 у.а., торг. Т. (8-029) 7603076.

• Пежо-405 на запчасткі. Т. МТС (8-033) 6677510.

• Пежо-405, 1989 г.в., 1,9 газ-бензін, універсал, 1100 у.а., Маладзечна. Т. (8-029) 3867253.

• Пежо-406, 1999 г.в., 2,0 дызель, механіка, 6500 у.а. Т. (8-029) 6517542, (8-0176) 769617.*

• Пежо-806 мінівэн, 1995 г.в., 2,0 Б, цёмна-зялёны металік, сігналізацыя. Т. (8-0176) 744212, МТС (8-029) 5648002.

• Рэно Лагуна, 2002 г.в., 1,9 ДСІ, клімат, кандыцыянер, добры тэхнічны стан. Т. МТС 2641389.

• Рэно Лагуна-2, 2003 г.в., 1,9 ДСІ, універсал, блакітны металік, 8000 у.а., торг, абмен. Т. (8-044) 7579805, (8-029) 6314722.*

• Рэно Меган, 2002 г.в., 1,4 бензін, 16 V, хэтчбэк, серабрысты металік, адзін гаспадар, усе опцыі, зімняя гума, 6300 у.а., торг. Т. МТС 7557022, Міхаіл.*

• Сеат Альхамбрыя, 1999 г.в., 1,9 ТДІ, цёмна-сіні, л/д, АС-3, выдатны стан. Т. (8-029) 6135717.

• Сітраэн Берлінга, 2008 г.в., бензін, 1,4 і, +4 зімнія гумы, Маладзечна. Т. МТС 7530548, Вэлком 1711152.*

• Сітраэн Ксантыя, 1996 г.в., 1,8 бензін, сіні, эл/пакет, велюр, 3900 у.а. Т. (8-029) 5095079.

• Сітраэн Ксантыя, 1997 г.в., 1,9 Д, універсал, чорны, МКПП, АВС, кандыцыянер, процітуманыя фары, 4150 у.а., торг. Т. (8-029) 3638858, (8-029) 5078858.

• Таёта Пікнік, 1999 г.в., 2,2 ТД, прабег 375500, 7900 у.а., торг. Т. (8-044) 7818837, (8-029) 7734558.*

• УАЗ бартавы. Т. (8-01591) 38525.

• ФВ Гольф, 1987 г.в., 1,6 Д, 5-дзверны, 1690 у.а. Т. (8-044) 7601222.

• ФВ Гольф-2, 1987 г.в., 1,6 Д, сіні, добрая гума, фаркоп. Т. МТС 5583512, 5759035.

• ФВ Джэта, 1990 г.в., 1,8 бензін. Т. Вэлком (8-029) 3945181.

• ФВ Джэта, 1996 г.в., 1,6 бензін, 1500 у.а., торг, Вілейка. Т. (8-029) 5716221.

• ФВ Джэта, мадэль 2006 г.в., 1,9 TDI, 11950 у.а. Т. (8-029) 6536317.

• ФВ Пасат-В4, 1994 г.в., 1,8 Б, цёмна-сіні, універсал. Т. (8-029) 9696500.

• Фіят Брава, 1999 г.в., 1,9 дызель, выдатны стан, 3950 у.а., торг, Маладзечна. Т. (8-025) 5060581.

• Фіят Марэа, 1997 г.в., 1,9 турбадызель, шэрая, добры стан, 4000 у.а., торг, Маладзечна. Т. (8-029) 3490863.

• Форд Сіера Люкс, 1600 у.а., Маладзечна. Т. (8-029) 5615614.*

• Форд Сіера па запчастках. Т. (8-029) 6578681.*

• Форд-СМах, 2009 г.в., 1,6 ТД, цёмна-сіні, мінівэн, 13700 у.а., торг. Т. (8-044) 4873976.

• Шкода Актавія, 1997 г.в., зялёны металік, прабег 182500 км. Т. Вэлком (8-044) 7713991.

• Будка-ізатэрма на Газэль ці як бытоўка на дачу, нядорага. Т. (8-033) 6650561, (8-0176) 772330.*

• Гума дыяметрам 16, 205х65, С. Т. (8-029) 7653562.

• Запчасткі Аўдзі-80 В3. Т. МТС (8-029) 5686869.*

• Запчасткі б/у Форд Гэлаксі, 1999-2002 г.в., 1,9 ТДІ, Сітраэн Эвазіён, 2001 г.в., 2,0 Б, Гольф-4, 2000 г.в., Аўдзі А-6 і інш. Т. (8-044) 7728292, (8-029) 2658561.*

• Запчасткі Гольф-3. Т. Вэлком (8-029) 6154346.*

• Запчасткі да Опель Кадэт, 1987 г.в., 1,6 Д. Т. (8-044) 7387127.*

• Запчасткі да Форд Эскорт, 1994 г.в., 1,8 Д. Т. (8-044) 7387127.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО (У Т.Л. ВАЗ); КРЫЛЫ, КАПОТЫ, ПАРОГІ, РАМ. УСТАЎКІ АРАК І ІНШЫХ ЧАСТАК КУЗАВА. А ТАКСАМА ЛЮСТЭРКІ, ГЛУШЫЦЕЛІ, БАМПЕРЫ, ПАДКРЫЛКІ І ШМАТ ІНШАГА.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

• Запчасткі ФВ Пасат В3. Т. МТС (8-029) 8777677.*

• Прычэп МАЗ-81-62 у добрым стане, ёсць дакументы, усё працуе. Т. (8-033) 6636597, (8-029) 5688890.*

• Рухавік (ГАЗ-560), стаер, з усім навясным, б/у. Т. (8-033) 6012492.

• Шыны б/у 195/55 R15 "Michelin", 4 штукі. Т. (8-029) 6458716.

### КУПЛЮ

• **А/М, ДОРАГА! Т. (8-029) 5016186.***

• А/м **ЛЕГКАВЫ** ці **БУС**. Разгледжу ўсе варыянты. Т. (8-033) 6008152.*

• А/м у любым стане, можна мікрааўтобус. Т. (8-029) 6757851.*

• А/м у любым стане. Дорага. Т. Лайф (8-025) 9378887.*

• Аўто любое, любога года выпуску, любой маркі і мадэлі, з любымі праблемамі, аварыйнае ці на запчасткі. Забяру сам. Т. Вэлком (8-044) 4625799, МТС (8-033) 3825092, Лайф (8-025) 6331470.*

• Аўто ў любым стане, дорага. Т. Лайф (8-025) 9378887.*

• Аўто, мікрааўтобус, грузавік, трактар, пагрузчык у любым стане. Т. (8-029) 5524004.*

• **АЎТО, МОЖНА З ПРАБЛЕМАМІ. Т. (8-029) 7649185, (8-029) 9496581.***

• **АЎТО, ХУТКА, ВЫЕЗД. Т. (8-029) 7652832, (8-029) 9496492.***

• Іншамарку да 2500 у.а., тэрмінова. Т. Вэлком (8-029) 3856049, МТС (8-029) 2635648.*

### ІНШАЕ

• **АЎТАРАЗБОРКА: РЭНО, ПЕЖО, СІТРАЭН. ВЯЛІКІ ВЫБАР Б/У ЗАПЧАСТАК, НІЗКІЯ ЦЭНЫ, ГАРАНТЫЯ,** Маладзечна, вул.Маладзёжная, 10. ІП Еўдакіменка Д.І. УНП 191984027. Т. (8-044) 7149298, (8-029) 8628501.*

### ПАСЛУГІ

• Арэнда **МІНІ-ЭКСКАВАТАРА** пад земляныя работы. Т. ІП Матусевіч Ю.Н. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868.*

• Арэнда міні-экскаватара, мініпагрузчыка, колавага экскаватара, трамбовачнікі, усе віды земляных работ. ІП Дудзінскі П.З. УНП 600170076. Т. (8-029) 9098949.*

• Арэнда самазвалаў МАЗ 20 тон і 10 тон (дастаўка пяску, шчэбеню, асфальту, вываз смецця), франтальнага пагрузчыка ТА-18, паўнапаваротнага экскаватара, (0,85 куб. м), экскаватара-пагрузчыка, гусенічнага экскаватара, увесь комплекс земляных работ. ТАА "Матэк Про". УНП 695501712. Т. (8-029) 3622022, (8-033) 6686871.*

• **АЎТАРАЗБОРКА НЯМЕЦКІХ І ФРАНЦУЗКІХ** аўто. Вялікі выбар. Гарантыя, на запчасткі. г.Ліда. Дастаўка ў Маладзечна. ІП Малец П.Н. УНП 591319307. Т. (8-029) 9289224, (8-029) 7417597, (8-033) 3761764.*

• МАЗ, самазвал, 10 т; пясок, жвір, ПГС, раствор, бетон, вываз смецця. ІП Сушко А.А. УНП 690690644. Т. (8-029) 3385358, (8-029) 7588449.*

• Паслугі міні-экскаватара. Вада, газ, падмурак, каналізацыя. ІП Сурынт Е.Ю. УНП 691508985. Т. (8-025) 5250098.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 2-павярховая дача ў Лазаўцы, 12 км ад горада, 2 вялікія пакоі, кухня, печ, кладоўка, хлеў, 4,9 соткі. Т. (8-029) 2618522, (8-029) 8563845.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Беразінскім. Т. (8-029) 8748175.

**СДАМ В АРЕНДУ** гусеничный экскаватор **JCB JS220 LC** 2009 г.в. мощность 128,4 кВт **(029) 624-79-12** ИП Счастный А. Е. г. Молодечно УНП 691512499

**СДАМ В АРЕНДУ** экскаватор-погрузчик **CUKUROVA 888** • 2011 года выпуска • колесная формула 4х4 • мощность 74,5 кВт **(029) 624-79-12**

■ **шины, диски**
■ **Cordiant**
■ **KamaEURO**
■ **Аккумуляторы**

*Нал/безнал расчет*
*Доставка*
Тел. МТС **(8-029) 773-04-18**
Велком **(8-044) 782-64-51**
ИП Бондарович С.М. УНП 691506967

**Куплю**
**ЛЕГКОВОЙ АВТО и МИКРОАВТОБУС**
**в любом состоянии. Дорого. Заберу сам.**
Тел. МТС **(8-029) 548-01-88,**
Велком **(8-029) 611-69-99.**
ИП Хоптенко С.С. УНН 790503293

**СТО**
■ **Замена ГРМ, сцепления**
■ **Диагностика ходовой**
■ **Ремонт ходовой**
■ **Ремонт глушителя**
■ **Развал-схождение**
■ **Автокондиционеры**
Тел. в Молодечно **75-75-72**, **(029) 876-51-17, (029) 335-48-04, (029) 64-61-463**
*Молодечно, ул. Т. Дудко, 2* (рядом с таможней). Работаем без выходных
ООО "Авто-Мотор- Плюс". УНП 690552830

■ **Компьютерная диагностика и ремонт электрооборудования** любой сложности;
■ **Решение проблем:** клапан ЕГР, катализатор, сажевый фильтр;
■ **Проверка и регулировка СО, СН;**
■ **Заправка и ремонт кондиционеров;**
■ **Замена ГРМ;**
■ **Диагностика и ремонт подвески;**
■ **Запчасти** в наличии и под заказ.
Т. Велком **(8-044) 741-91-83**, МТС **(8-029) 779-93-27**.
**Шиномонтаж** Т. **(8-044) 533-32-66, (8-029) 769-73-09.**
ОДО «Игл» УНП 690603198

**СТО**
**диагностика, обслуживание, ремонт**
☑ двигатель
☑ подвеска
☑ головки блока цилиндров
☑ форсунки
☑ турбины
☑ рулевые рейки
☑ электрические и электронные системы
☑ развал-схождение
г.Молодечно, ул.Тургенева, 40
**Велком** 553-42-68,
**МТС** 553-42-68, **гор**. 73-18-72
**Запчасти**
**Велком** 542-92-84,
**МТС** 542-92-82
***WWW.STO-MOLODECHNO.BY***
легковые и грузовые авто высота ворот 3,7 м
ООО «ИнженерТрансСервис» УНП 691298030

**Профессиональная диагностика и ремонт БЕНЗИНОВЫХ АВТО**
■ проверка и регулировка СО, СН
■ ремонт и обслуживание дросельных заслонок, клапанов ЕГР
■ обслуживание топливных насосов и форсунок
■ диагностика системы зажигания
■ диагностика отработанных газов
■ диагностика электронных систем автомобиля
■ ремонт стартеров и генераторов
■ установка и ремонт сигнализаций
■ ремонт электрооборудования автомобиля
■ диагностика и ремонт эл.систем автомобилей ГАЗ УАЗ



**8.00–22.00, вых.: воскресенье**
**МТС, ВЕЛ 553–42–68, (80176) 73–18–72**
**www.STO–MOLODECHNO.BY**
**г.Молодечно, ул.Тургенева, 40**
ООО «ИнженерТрансСервис» УНП 691298030

ОАО «Молодечненский комбинат хлебопродуктов»
**приглашает к сотрудничеству юридических лиц по оказанию услуги на перевозку зерна и маслосемян рапса урожая 2014 г.**
Предложения принимаются до 10.07.2014 г. по адресу:
***222310, г.Молодечно, ул.Элеваторная, 7***
или по т/ф **(8-0176) 74-73-62, 54-28-73**
УНП 600074936

**Организация окажет услуги:**
• **погрузчиком МТЗ** с прицепом 4,5 т,
• **фронтальным погрузчиком ВМЕ-1565**,
• **а/м «Мерседес-Бенц-208D"** грузоподъемностью 1т,
• **автобусам Ford Transit** вместимостью 8 человек.
• **самосвалом МАЗ-5551** грузоподъемностью 10 т,
• **средствами малой механизации** (трамбовки, бензорезы, перфораторы, отбойники),

**предлагает леса строительные, столы каменские.**
Тел. **(8-0176) 72-61-27, 76-68-20,** МТС **(8-029) 278-33-88, (8-029) 278-33-22,** Вэлком **(8-029) 378-38-89**
ООО «Геостройимпульс» УНП 590928946

## Прыём дробных аб'яў

| | |
|---|---|
| **Маладзечна** | Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **753841, 769667.** |
| **Астравец** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. **21140.** |
| **Ашмяны** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. **45211.** |
| **Валожын** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. **55542, 55237.** |
| **Вілейка** | вул. Вадап'янава, 23, магазін «Парус». Тэл. **55284.** |
| **Вілейка** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539.** |
| **Мядзел** | вул. 17 Верасня, 2, пошта. Тэл. **55266, 55431.** |
| **Смаргонь** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. **33077.** |
| **Чысць** | вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **799172.** |

* *Аб'явы, адзначаныя зорачкай, змешчаны ў Інтэрнэце на сайце rh.by*

 





Фота Зоі ХРУЦКАЙ

Надвор'е ў дні фестывалю маладзечанцаў не песціла. Было холадна і ішлі дажджы, але на колькасць наведнікаў канцэрта гэтыя абставіны не паўплывалі.



Фота Зоі ХРУЦКАЙ

Уладальніца Гран-пры фестывалю Аліна Молаш ( трэцяя злева).



Фота Зоі ХРУЦКАЙ

Адзіная ў Беларусі жанчына-каваль Аксана Кірылюк з Маладзечна ў горадзе майстоў прадставіла свае работы.

# Фестываль: у чаканні юбілею

**МАЛАДЗЕЧНА. 14-ы Нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі "Маладзечна-2014" адбыўся 13-14 чэрвеня.**

Праграма фестывалю была больш чым традыцыйнай: і гандлёвыя пункты, і горад майстроў, і дзіцячая пляцоўка, і паэтычныя сустрэчы даўно сталі неад'емнай часткай маладзечанскага фестывалю.

Самай папулярнай стравай, якую прапанoўвалі гандлёвыя пункты, вядома, быў шашлык, пах якога разносіўся над горадам ад пятніцы. За 100 грамаў шашлыка са свініны госці фестывалю мусілі выкласці ад 18 да 28 тысяч рублёў.

У горадзе майстроў асаблівую ўвагу прыцягвала адзіная ў Беларусі жанчына-каваль **Аксана Кірылюк** з Маладзечна, якая па-жаночы вытанчана ўмее абыходзіцца з жалезам, а таксама самабытныя музыкі і ганчары.

Аматарам хэнд-мэйда таксама пашчасціла папоўніць свае калекцыі і нататнікамі ў тэхніцы пэчворк, і ўпрыгожваннямі з палімернай гліны. Маладзечанская майстрыха **Тацццяна Карпец** прадставіла на фестывалі не толькі ўпрыгожванні, зробленыя сваімі рукамі з лямцу, скуры, тканіны, але і цэлую калекцыю ўнікальных лялек. Дарэчы, Таццяну ў горадзе ведаюць і як цудоўную актрысу Мінскага абласнога драматычнага тэатра.

Аматары беларускай музыкі ў дні фестывалю маглі паслухаць і канцэрт хору імя Цітовіча, і канцэрт зорак беларускай эстрады. У амфітэатры, галоўнай канцэртнай пляцоўцы, у дзень адкрыцця фестывалю прайшоў конкурс маладых выканаўцаў. А на наступны дзень тут, у амфітэатры, сваё 45-годдзе святкаваў ансамбль "Песняры". Уся зала, і дзеці, і моладзь, і дарослыя, разам з "Песнярамі" спявала знакамітую "Купалінку", "Лявоніху", "Калядачкі", пра Яся, які касіў канюшыну.

Шкада, што ні на адкрыцці, ні на заключным канцэрце фестывалю не прагучала песня пра Маладзечна. Спадзяёмся, што на наступны год, у год юбілею фестывалю, маладзечанцы ўсё ж падхопяць за артыстамі: "Маладзечна, Маладзечна мой жаданы, родны кут..."

**Пераможцы Нацыянальнага конкурсу маладых выканаўцаў беларускай эстраднай песні 2014**

Прыз імя Уладзіміра Мулявіна уладальніцы Гран-пры **Аліне Молаш** ўручыў Міністр культуры **Барыс Святлоў**.

Аліна Молаш прадстаўляла Міншчыну, жыве ў Мінскім раёне.

Журы адзначыла і іншых ўдзельнікаў конкурсу:

1 месца – мінчанка **Кацярына Шумская**.

2 месца – маладзечанцы **Артур Міхайлаў** і **Наталля Ламака**.

3 месца – **Лідзія Заблоцкая** з Магілёўшчыны і **Андрэй Грыгор'еў** з Гродзеншчыны.



Фота Наталлі ТУР

Фестываль не здраджвае сваім традыцыям – у першы дзень сыпануў дождж, прайшла навальніца.

## Міністр культуры паабяцаў помнік Янку Купалу

**МАЛАДЗЕЧНА. Падчас 14-га Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі міністр культуры Барыс Святлоў даў інтэрв'ю журналістам.**

**Міністр адказаў на пытанне пра значнасць фестывалю:**

– Яго значнасць адлюстраваная ў назве – Нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі. Ён адпавядае самым глыбокім мастацкім патрабаванням не толькі маладзечанцаў, але і жыхароў усёй краіны.

**Ці можа фестываль стаць міжнародным:**

– Гэта задача будзе выконвацца. Калі мы будзем далучаць выканаўцаў з далёкіх і блізкіх краін, то можам пазбавіцца аўтэнтычнасці, адметнасці Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі. А вось далучаць слухачоў і гледачоў з іншых краін – гэта кірунак, у якім мы будзем рухацца, каб надаць фестывалю статус міжнароднага.

**Што рабіць для папулярызацыі беларускай песні:**

– У першую чаргу – сістэматычная, велізарная, з вялікім унутраным заахвочваннем і культурай работа сродкаў масавай інфармацыі.

**Якая любімая песня:**

– "Купалінка". Я спяваць не буду... іншы раз, добра? Калі мне дапаможа Міхаіл Якаўлевіч Фінберг, тады мы разам заспяваем.

**Пытанне "Рэгіянальнай газеты". Калі ў Маладзечне з'явіцца помнік Янку Купалу:**

– У нас вядзецца работа ў гэтым накірунку. Як заўсёды, пытанне ў грашовых сродках. Таму давайце трохі пачакаем. У нас ёсць шмат яшчэ няввыкананых абавязкаў таго ж Міністэрства культуры не толькі перад Янкам Купалам, але, можа, нават у першую чаргу, перад Максімам Танкам, стагоддзе якога мы адзначаем. Шмат іншых нашых выдатных песняроў. Будзе і Янку Купалу ў Маладзечне помнік таксама.

**Сёлетні фестываль звязаны з дзвюма падзеямі: 70-годдзем вызвалення Беларусі і 45-годдзем ансамбля "Песняры". Абедзве падзеі адзначылі ў межах свята.**

**Пра "Славянскі базар":**

– Сёлета мы скарачаем фестываль. Ён будзе ад 10 да 14 ліпеня. Будзем больш арыентавацца на тэлегледачоў, выкарыстоўваць новыя сродкі, новыя лічбавыя фарбы.



Фота Наталлі ТУР

Міністр культуры Беларусі Барыс Святлоў.

**Старонку падрыхтавалі Наталля ТУР, Зоя ХРУЦКАЯ.**



Фота Наталлі ТУР

На канцэрце, прысвечаным 45-годдзю ансамбля "Песняры". Спявае мастацкі кіраўнік цяперашняга ансамбля Уладзіслаў Шарапаў.



 

УСПАМІНЫ

# Уладзімір Макоўскі пра Мінск, Кіеў і зборную

*Заканчэнне. Пачатак у №23.*

**Вядомы футбаліст Уладзімір Макоўскі, выхаванец маладзечанскай спартыўнай школы, расказаў аб найбольш важных этапах сваёй гульнявой кар'еры ў інтэрв'ю сайту dinamo-minsk.by. Прапануем чытачам "РГ" самыя цікавыя вытрымкі з гэтай публікацыі.**



Фота з архіва Сяргея ГАЙКОВІЧА.

**Уладзімір Макоўскі ў форме нацыянальнай зборнай на мінскім стадыёне "Дынама". Фотаздымак 1997 года.**

...У "Дынама" (Мінск) тады трапіць было вельмі цяжка, хлопцы з усёй краіны марылі гуляць там. У камандзе не было ні старых, ні малады, у тым "Дынама" неяк усе былі разам. Мы нармальна ўліліся. І Валік Бялькевіч, і Хацкевіч пачалі дапамагаць. Ніхто на нас зверху не глядзеў, не "душыў". А потым адразу паехалі на Кубак садружнасці ў Маскву, і я там лепшым снайперам стаў. Напэўна, даказаў, што магу гуляць, магу карысць камандзе прыносіць. І нас з Мішам вельмі добра прынялі.

...І пайшла кар'ера футбольная: пачаўся чэмпіянат – я там 23 галы забіў у той год. А ў 1997-м – пятнаццаць. Якая каманда тады была, ніколі не забуду! Якія людзі гулялі, у варотах – Тумiловіч, Варывончык. Абарона: Лухвіч, Астроўскі, Штанюк, Лаўрык. Далей – Хацкевіч, Бялькевіч, Пеця Качура. Ясковіч у запасе сядзеў! Праз некалькі гадоў, разышоўшыся па замежных клубах, яны ўтварылі зборную Беларусі.

...Цікавыя былі часы! Гэта мая маладосць, 19 гадоў! Пік формы маёй быў! Усё атрымлівалася, усё залятала. Проста ўсё. Я біў толькі ў бок варот – яно ўсё ляцела туды. Я адчуваў сябе ў мінскім "Дынама" вельмі камфортна.

## На вышэйшым узроўні

...Калі пераехаў у Кіеў, то спачатку трэніраваўся з першай камандай, гуляў пару матчаў у складзе. Але там хто гуляў у нападзенні? Рабраў, Шаўчэнка! Мне далі зразумець: чакай, пакуль іх прададуць! А ў мяне ўзыграла самалюбства, як жа! Лепшы футбаліст Беларусі, лепшы снайпер мінскага "Дынама". Хацелася ўсяго адразу і паболей. І крыўды нейкія прысутнічалі. Я са слаўтым трэнерам Лабаноўскім не сварыўся, не. Але вёў сябе...

...Потым з чэшскай "Спартай" гулялі за выхад ў Лігу чэмпіёнаў – я галявую перадачу аддаю. Прыязджаем у Кіеў, гуляем у чэмпіянаце, мяне ставяць у склад – забіваю гол. Потым еду ў зборную, мы гуляем у Мінску з Даніяй 0:0. Вяртаюся ў Кіеў, і тут Лабаноўскі мне гаворыць: "Нешта ты дрэнна згуляў з датчанамі. Давай у "Дынама-2!"

...Вось так нас выхоўвалі. У Андрэя Шаўчэнкі напярэдадні гульні ў Лізе чэмпіёнаў галёнкаступнёвы сустаў быў большы, чым у мяне галава – так распух. На перадгульнявой трэніроўцы ён не займаецца, мяне рыхтуюць у склад. З усіх бакоў чувацъ: будзеш гуляць! Будзеш гуляць! Я настройваюся. На наступны дзень Лабаноўскі аб'яўляе склад – Шаўчэнка ў складзе. У мяне адразу думка, а мала ды ж яшчэ: "Што ж гэта за цырк?"

...Вось так правяралі, правяралі – недзе псіхалагічна і зламаўся. Часам мне задаюць пытанні, маўляў, вось, ты не загуляў у кіеўскім "Дынама"! У цябе ж там такі шанс быў! Як так? Вы ж там усё страцілі з братам! Адказваю, што спачатку трэба туды патрапіць, а потым ужо расказваць, як там і што. У мінскае "Дынама" было складана трапіць, а ў кіеўскае? Ого! І мы – трапілі! А тое, што там адбылося – гэта ўжо... Так, недзе не атрымалася. Але я не шкадую ні аб чым. Таму што гэты час, з 18 гадоў, быў пікам маёй формы, маёй футбольнай кар'еры, я лічу. Потым ужо не тое, потым пайшлі ўжо арэнды. Ужо добра і не помню, куды я ездзіў, дзе гуляў.

## Незалічаны гол

У Італіі вельмі запомніўся матч за зборную, 1:1 у Анконе згулялі. Мы 1:0 павялі, Валік Бялькевіч забіў тады, потым Індзагі з пенальці зраўняў. Не забуду гэтыя эмоцыі. А там каманда: Мальдзіні, Раберта Баджа, Контэ яшчэ гуляў! Буфон на варотах...

Дагэтуль перад вачыма такі момант стаіць: у другім тайме я спецыяльна па лініі стаю з абаронцамі, каб у становішча па-за гульнёй не забегчы. Якраз у зоне Мальдзіні, а Валік мне аддае перадачу, і я ў адно крананне б'ю Буфону ў блізкі кут, а ён "пайшоў чытаць" у далёкі. Яшчэ думка такая прамільгнула – патраплю!

Гляджу, стаіць бакавы суддзя са сцяжком – па-за гульнёй. А гэта хвіліна 80-я, залічы ён 2:1, як бы там далей усё было? Пасля гульні глядзелі відэа, не было афсайда там, на адной лініі стаялі. Вось гэта так крыўдна!

...І пасля гульні таксама выпадак: фінальны свісток, і я аказваюся каля Мальдзіні. Good luck! – пажадалі адзін аднаму ўдачы. Я паказваю, каб памяняцца майкамі? Ён паказвае, што ў раздзявальні.

Мы на эмоцыях, пабеглі да нашых балельшчыкаў, віншавалі, віталі. Нічога сабе – 1:1 у Італіі з гэтай камандай згулялі! Я ўжо і забыўся, што дамаўляліся майкамі памяняцца. Будзе ён мяне чакаць? Ну, думаю, нічога страшнага. Ідзём назад у раздзявальню, гляджу, а каля нашай раздзявальні Мальдзіні стаіць. Усе падыходзяць да яго, а ён усім адказвае, адказвае. Мяне ўбачыў, майку здымае, аддае. Я, канешне, сваю майку таксама зняў, аддаў. Дзякавалі адзін аднаму. Мне так прыемна было. Мяне Мальдзіні чакаў каля раздзявальні! Незабыўныя часы!

Паводле dinamo-minsk.by

Падрыхтаваў **Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

НАВІНЫ

## "Маладзечна-2013" саступіла мінскаму "Партызану"

**МАЛАДЗЕЧНА.** Гульня 7-га тура чэмпіянату краіны па футболе адбылася 15 чэрвеня ў Мінску.

На жаль, для маладзечанцаў яна скончылася паражэннем 2:0.

Матч каментуе галоўны трэнер ФСК "Маладзечна-2013" **Дзмітры Ганчароў:**

– Бываюць няўдалыя дні. Такім днём для нас была нядзеля. Не магу сказаць, каб мы блага гулялі, але нешта пайшло не так. У першым тайме мае гульцы стварылі некалькі небяспечных момантаў. Не трапілі ў вароты сапернікаў **Андрэй Лявончык** і **Аляксандр Парфёнаў.** Быў момант, калі **Віктар Мурашка** ў 100-працэнтнай сітуацыі, калі выйшаў адзін на адзін, не патрапіў у вароты.

Ну, не атрымалася. У другім тайме першы мяч у нашы вароты трапіў па пенальці. На полі было нейкае непаразуменне. Засталося толькі развесці рукамі. Па гульні ў мяне да каманды прэтэнзій няма. Нам проста не пашанцавала.

У нядзелю, 22 чэрвеня, гуляем з адной з лідзіруючых камандаў чэмпіянату – з "Крумкачамі".

**Наталля ТУР.**

## "Смаргонь" пабіла рэкорд выніковасці

СМАРГОНЬ. У 1/32 фіналу Кубка Беларусі 11 чэрвеня футбольны клуб "Смаргонь" у гасцях абыграў з лікам 11:0 клуб "Ружаны". Гэта рэкордная перамога "Смаргоні" за ўсю гісторыю, паведамляе сайт fc-smorgon.by.

## Найбольш галоў забіў Мархель – пяць.

**СМАРГОНЬ.** А вось у чэмпіянаце Беларусі па футболе ў першай лізе "Смаргонь" прайграла.

У дзясятым туры смаргонцы 15 чэрвеня ў гасцях сустракаліся з "Гарадзеяй". І прайгралі 0:1. Адзіны гол у пачатку другога тайма забіў былы гулец "Смаргоні" Лебедзеў. Ад 68-й хвіліны смаргонцы гулялі ў меншасці: за другую жоўтую картку выдалілі Гаркушу.

Галоўны трэнер ФК "Смаргонь" **Павел Бацюта** ўсё ж лічыць, што такія матчы можна і трэба выцягваць на нічыю.

– Роўная гульня была ў першым тайме. Ішла барацьба характараў. Ніхто не хацеў саступаць. І нават саступіўшы тэрыторыю, ініцыятыву мы не аддалі. У другім тайме барацьба працягвалася, плюс эпізод з голам. Недапрацавалі мы з падборам у штрафной пляцоўцы – атрымалі гол. Плюс праз пару хвілін страцілі гульца – другая жоўтая. Вядома, гэта выдаленне паўплывала на ход замен. Хоць у меншасці гуляць было цяжка, хлопцы прытаміліся. Але мы – максімалісты. Ёсць прэтэнзіі да тых, хто выйшаў на замену. Яны павінны былі ўсё аддаць, каб выцягнуць гэту гульню. Такія матчы можна і трэба выцягваць на нічыйны зыход.

"Смаргонь" апусцілася на дзясятае месца ў турнірнай табліцы.

## Са "Смаргоні" – у Маскву

**СМАРГОНЬ.** Былы гулец зборнай Беларусі **Аляксей Скварнюк** пакінуў "Смаргонь" і з'ехаў у Маскву на прагляд у адзін з мясцовых футбольных клубаў, паведамляе fc-smorgon.by. За клуб футбаліст правёў дзесяць матчаў. Забіў адзін мяч якраз у апошнім матчы за "Смаргонь" супраць "Ружан".

Нагадаем, што кантракт са "Смаргонню" быў разлічаны на тры месяцы.

## Маладзечанцы дагналі лідара

**МАЛАДЗЕЧНА, ВІЛЕЙКА, ВАЛОЖЫН.** У суботу, 14 чэрвеня, пачаліся гульні сёмага тура чэмпіянату Мінскай вобласці па футболе. "Маладзечна-ДЮСШ-4" атрымала гасцявую перамогу над "СМІаўтатрансам" 4:2. Маладзечанцы дагналі па набраных ачках лідара групы "А" – футбольны клуб "Барысаў".

Дапамаглі ў гэтым землякі – футбалісты "Забудовы-2007". Яны дома выйгралі ў "Барысава" 4:3 (у гаспадароў тры галы на рахунку Ляўковіча).

"Валожын-2010" умудрыўся прапусціць пятнаццаць галоў у гасцях ад "Жодзіна-2007". Прычым валожынцы не забілі ні разу.

Лягчэй за ўсіх у гэтым туры прыйшлося "Віліі". У нядзелю яны павінны былі сустракацца з "Коласам" з Чэрвеньскага раёна. Але чэрвеньцы ў Вілейку не прыехалі. У выніку ім залічана тэхнічнае паражэнне з лікам 0:3.

## Вызначыўся першы фіналіст

**ВІЛЕЙКА.** У нядзелю, 15 чэрвеня, адбыўся паўфінал турніру па міні-футболе на штучным пакрыцці. Сустракаліся "Юніёр" і "Рубін".

– "Юніёр" лічыўся фаварытам сустрэчы, летась яны былі ў фінале турніру. Аднак малодыя хлопцы з "Рубіна" першымі забілі гол і вялі ў ліку ўвесь час. Як вынік, перамога "Рубіна" 5:3, – расказаў старшыня Вілейскай раённай федэрацыі футбола **Ігар Шабан.**

**Аддзел інфармацыі.**

# Камент-эксперт Rh.by

Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420

### Маладзечанцы змогуць паўплываць на расклад руху "Штадлера"

Меркаванні пра "Фестывальны" падзеляцца: хто жыве каля "Фестывальнага", будзе за прыпынак, хто жыве каля вакзала – супраць). Як альтэрнатыва, зрабіць некалькі маршрутаў Фестывальны – Мінск. І як піша "Валка": "Каму трэба хутка і з камфортам даехаць, то прыедзе на "Фестывальны"). ***Dima.***

Каб яшчэ перагледзелі і перанеслі адпраўленне цягніка з Маладзечна на Глыбокае з 20:13 на 20:25, то ўсе білеты скуплялі б наперад тыя віляйчане, якія працуюць ў Мінску. ***Вася.***

### У Смаргоні ўсталявалі асноўныя скульптуры мемарыяльнага комплексу

"І што, з 16 тысяч жыхароў вярнулася ўсяго 120 чалавек". Мой дзед вярнуўся ў Мінкі на папялішча ў 1921-м. Паставіў часовыя збудаванні і з'ехаў на заробкі ў Латарынгію ў Францыю. Працаваў шахцёрам і грошы бацьк адпраўляў. А тая дом будавала. Вуліца Кірава цяперашняя. ***Урсус.***

### "Вілія" перамагла "Беразіно"

МАЛАЙЦЫ, ХЛОПЦЫ! ***SASHA VILEISKIY.***

### Міністр культуры паабяцаў помнік Янку Купалу ў Маладзечне

Даўно трэба яго паставіць. Сабралі ж грошы на помнік Агінскаму. Як ужо Купалу не паставіць? Здаецца, зусім не ў грашах справа, проста ніхто не хоча браць на сябе адказнасць. ***Ядвіга.***

### 14-ы Нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі: фота

Трэба нешта новае прыдумваць, каб у людзей зноў ажыла зацікаўленасць да фестывалю. Вуліцы былі пустыя, твары ў людзей – сумныя. Футбол і дождж не вінаватыя. Не было нагоды ісці. ***Сямён Іванавіч.***

### Варыў пельмені ў электрачайніку – на абед прыехала Маладзечанскае МНС

Смешны тарвыш. Проста як у фільмах. Гэта будуць самыя дарагія пельмені ў яго жыцці. Наталля малайчына. Фота да артыкула – рэспект. ***Эдгард.***



## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 6 | | 4 | 7 | | | |
| | | 4 | 2 | | | | | 7 |
| | 8 | | 6 | 1 | | | | |
| | 1 | 2 | | | 9 | | | 6 |
| 6 | | | | | | | | 9 |
| 9 | | | 7 | | | 5 | 1 | |
| | | | | 5 | 4 | | 7 | |
| 2 | | | | | 8 | 3 | | |
| | | | 3 | 7 | | 8 | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3x3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 5 | 2 | 9 | 8 | 4 | 7 | 1 | 6 | 3 |
| 1 | 3 | 4 | 2 | 6 | 5 | 9 | 8 | 7 |
| 7 | 8 | 6 | 9 | 1 | 3 | 4 | 2 | 5 |
| 8 | 1 | 2 | 5 | 3 | 6 | 7 | 4 | 9 |
| 9 | 5 | 7 | 4 | 8 | 1 | 2 | 3 | 6 |
| 6 | 4 | 3 | 7 | 2 | 9 | 5 | 1 | 8 |
| 3 | 9 | 8 | 1 | 5 | 4 | 6 | 7 | 2 |
| 2 | 7 | 1 | 6 | 9 | 8 | 3 | 5 | 4 |
| 4 | 6 | 5 | 3 | 7 | 2 | 8 | 9 | 1 |

## АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ МАЛАДЗЕЧНА



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

**Хто сказаў, што грошы даюцца лёгка? Вынаходства думкі ўстаноўшчыка: каб атрымаць грошы з банкамата, давядзецца пастарацца. Дзіўны банкамат, да якога не падступіцца, знаходзіцца на вуліцы Валынца.**

## РЭПЕРТУАРЫ



### Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Камедыя "**Усё і адразу**" (Расія, 2014, фільм дазволены для паказу гледачам з 16 год)
19 чэрвеня – у 19:00
21 чэрвеня – у 16:30
23 чэрвеня – у 21:00
25 чэрвеня – у 19:00
Кошт білета – 40 000 рублёў

Фантастычны баявік "**Грань будучыні**", 3D (ЗША, 2014, фільм дазволены для паказу гледачам з 16 год)
20 чэрвеня – у 18:30
22 чэрвеня – у 16:00
24 чэрвеня – у 18:30
25 чэрвеня – у 21:00
Кошт білета – 40 000-50 000 рублёў

Камедыя "**Падарунак з характарам**" (Расія, 2014, дзецям да 12 год прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
19 чэрвеня – у 17:00
20 чэрвеня – у 16:30
21 чэрвеня – у 14:30
22 чэрвеня – у 14:00
Кошт білета – 20 000-30 000 рублёў

Фэнтэзі, баявік "**Людзі Ікс: Дні мінулай будучыні**", 3D (ЗША, 2014, дзецям да 12 год прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
19, 20 чэрвеня – у 21:00
21, 22 чэрвеня – у 18:30, 21:00
23 чэрвеня – у 18:30
24 чэрвеня – у 21:00
Кошт білета – 55 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя "**Белка і Стрэлка: Прыгоды на Месяцы**" (Расія, 2013, без узроставых абмежаванняў)
19 чэрвеня – у 16:00
23 чэрвеня – у 16:00
Кошт білета – 15 000 рублёў

Анімацыя "**Адважны плаўнік**" (Кітай, Канада, 2012, без узроставых абмежаванняў)
20 чэрвеня – у 16:00
21, 22 чэрвеня – у 15:00
Кошт білета – 15 000 рублёў

Анімацыя "**Братва з джунгляў**" (Кітай, Канада, 2012, дзецям да 12 год прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
24, 25 чэрвеня – у 16:00
Кошт білета – 15 000 рублёў

Трылер "**Уладанне 18**" (Расія, 2013, фільм дазволены для паказу гледачам з 16 год)
19 чэрвеня – у 21:30
20 чэрвеня – у 19:30, 21:30
21, 22 чэрвеня – у 17:30, 19:30, 21:30
23-25 чэрвеня – у 21:30
Кошт білета – 35 000 рублёў

Тэл. : **8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

### Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Камедыя "**Палярны рэйс**" (Украіна, дзецям да 12 год прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні бацькоў або педагога)
20, 21, 22, 25 чэрвеня – у 18:00
Кошт білета – 35 000 рублёў

Драма "**Паганіні: Скрыпач Д'ябла**" (Італія, фільм дазволены для паказу гледачам з 16 год).
20, 21, 22, 25 чэрвеня – у 21:00
Кошт білета – 35 000 рублёў

Камедыя "**Кіндэрвілейскі прывід**" (Беларусь, без узроставых абмежаванняў)
21, 22 чэрвеня – у 15:00
Кошт білета – 15 000 рублёў

Камедыя "**Мае афрыканскія прыгоды**" (Данія, дзецям да 12 год прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні бацькоў або педагога).
26 чэрвеня – у 18:00
Кошт білета – 35 000 рублёў

Меладрама "**Госця**" (ЗША, фільм дазволены для паказу гледачам з 16 год).
26 чэрвеня – у 21:00
Кошт білета – 35 000 рублёў

Тэл.: **8(01771), 5-43-61, 5-60-95, 5-68-59**

## ГАРАСКОП (20-26 ЧЭРВЕНЯ)



**Авен.** Да ўсяго ў жыцці трэба адносіцца спакойна, нават калі ўзнікаюць цяжкасці. Сітуацыя заўсёды мяняецца да лепшага, трэба толькі дачакацца гэтага моманту.



**Цялец.** Перыяд спрыяльны і цікавы, шмат каму ён запомніцца надоўга. Трацце грошы з розумам, і яны будуць да вас вяртацца з задавальненнем.



**Блізняты.** Калі што не атрымоўваецца – проста чакайце. Час усё расставіць па сваіх месцах і адкрые новыя магчымасці. Заўсёды верце ў тое, што ўсё будзе добра.



**Рак.** Узмоцніцца ўплыў пазітыўных тэндэнцый і дазволіць вам перавесці дух. Наступіць час цікавых сустрэч, прыемных зносін, маленькіх радасцяў, якія робяць жыццё яркім.



**Леў.** Вас чакаюць рознабаковыя дзелавыя кантакты, у тым ліку тыя, якія адкрываюць галавакружныя перспектывы. Будзе шмат работы, але няма ніякай неабходнасці спраўляцца з усім самастойна, ёсць жа правераныя людзі.



**Дзева.** Не рабіце неабдуманых учынкаў, старайцеся прадугледзець магчымыя наступствы кожнага кроку.



**Шалі.** Вам прыйдзецца нямала папрацаваць, але ў вас будзе нямала важкіх падстаў ганарыцца сабой. Аўтарытэт узрастае, з вашым меркаваннем лічацца мудрыя, з досведам, ды і проста важныя людзі.

**Скарпіён.** Добра было б змяніць абстаноўку, а заадно і абмежаваць зносіны з тымі, хто выклікае ў вас антыпатыю – гэта дапаможа захаваць душэўную раўнавагу.





**Стралец.** Калі прымаеце важныя рашэнні, якія тычацца работы, то не варта прыслухоўвацца да парадаў сяброў ці сваякоў. Вы ведаеце ўсе тонкасці, нюансы і самі павінны прыйсці да правільных высноў.



Казярог. Нікому не навязвайце сябе: тыя, каму вы сапраўды патрэбныя, знойдуць вас.



**Вадалей.** У вас няма падстаў скардзіцца – усё задуманае так ці інакш увасабляецца ў жыццё. Магчыма сустрэча з чалавекам, які навучыць вас пераадольваць шмат якія жыццёвыя нягоды.



**Рыбы.** Асабістыя адносіны складваюцца не так, як хацелася б. Вы адчуваеце раздражненне. Але перш чым злавацца, пагаварыце з блізкім чалавекам: кампрамісы абавязкова знойдуцца.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень

**Камент-эксперт Rh.by**

Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420**, на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **rh.by**

## НАДВОР'Е

**21 чэрвеня, субота**

| | Пятніца | | | Субота | | | Нядзеля | | | Панядзелак | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +15 / +17 | | | +10 / +16 | | | +12 / +16 | | | +9 / +13 | | |
| | 731 | → | 4 | 735 | → | 5 | 735 | → | 4 | 737 | → | 5 |
| Вільня | +13 / +14 | | | +9 / +13 | | | +8 / +15 | | | +9 / +13 | | |
| | 738 | → | 4 | 743 | ↗ | 5 | 742 | → | 6 | 744 | → | 5 |

Тэмпература паветра, Воблачнасць ападкі; Ціск (мм рт. сл.), Хуткасць ветра м/с; Усход, захад па Маладзечне

Усход 4.38
Захад 21.51
Даўжыня дня 17.13

Усход 1.31
Захад 15.23
Квадра 4




## ПРЫКМЕТЫ

- Душна на світанні – да непагадзі.
- Фёдар-Страцілат (21 чэрвеня) грамамі багат. У гэты дзень шукалі месцы для капання студняў.
- 24 чэрвеня. У беларусаў каталікоў Ян Купальны, Янаў дзень.

## Чытайце праз тыдзень:

**“Рэгіянальная газета” выйдзе тысячным нумарам у наступную пятніцу. Далучайцеся да нашага свята праз тыдзень, чытайце юбілейны нумар!**

## Ляпы футбольных каментатараў

* Пас то добры, ды поле скончылася!

* Ну, ведаеце, за гэта трэба біць табло! Выбачайце, твар.

* Ад радасці, што забіў гол такому моцнаму саперніку, Баджо павесіўся на варотах.

* Арбітр дастаў са штаноў выдаленне.

* Абарона сыплецца як тынкоўка.

* Я тут стукаю па галаве, па маніторы, па кнігах. Што тут вакол яшчэ драўлянае, божа мой!

**Паводле adme.ru.**



## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў РЭГІЁНЕ

# Якая роля бацькі ў сям'і?



**Тамара Бурко, дырэктар Каловіцкага дома майстроў, Вілейскі раён:**

– Калі казаць пра сваю сям'ю, то ў нас бацька быў самым галоўным чалавекам, галавой сям'і. Для нас ён быў заўсёды прыкладам, стараліся слухацца яго ва ўсім.



**Генадзь Скурко, метадыст-майстар цэнтра народных рамёстваў, Крывічы, Мядзельскі раён:**

– Лічу, што бацька – галоўны чалавек у сям'і. Ён забяспечвае і матэрыяльную, і духоўную аснову для сваіх дзяцей, і наогул, для сям'і.



**Ірына Грынкевіч, у дэкрэтным адпачынку, Маладзечна:**

– Бацька павінен забяспечваць сваю сям'ю – гэта самае першае, другое – быць прыкладам, асабліва для сына, дапамагаць і падтрымліваць жонку, каб яна заўсёды адчувала плячо побач. Ну і, вядома, песціць жонку: падарункі там усякія, каб яна была заўсёды ў добрым настроі.



**Руслан Гур'еў, настаўнік, Маладзечна:**

– Ніякай ролі ў бацькі ў сям'і цяпер няма, і адказнасць за сям'ю даўно ляжыць толькі на жаночых плячах.



**Уладзімір Жаўток, інжынер-тэхнолаг, Валожын:**

– Да стварэння сям'і трэба падыходзіць узважана і толькі тады, калі ты сваіх дзяцей зможаш цалкам забяспечыць. Бацька ў сям'і мае ж такое самае значэнне, як і маці. І толькі ў такой сям'і дзеці будуць выхоўвацца правільна.



**Вольга Якаўлева, педагог, Вілейка:**

– Ва ўсе часы роля бацькі не мянялася: ён здабытчык і карміле́ц. Актуальна гэта і ў наш час.

**Падрыхтавалі Алесь ВЫСОЦКІ, Наталля ТУР.**



Рэгіянальная газета. Rh.by Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 25 (999) 20.06.2014.
Друкарня ТДА “Знамение”, г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення паліграфічнай дзейнасці №02330/85 от 23.01.14 г. да 29.03.2019. Зак. 538. Падпісана ў друк у 10.00 19.06.2014.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004 у ААТ “Банк БелВЭБ” аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА “Рэдакцыя газеты “Рэгіянальная газета”, УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.